Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 10. Вільня, Серада, 22-га кастрычніка 1924 г. Год I.

## Збор ахвяраў на карысьць Беларускага прытулку у Вільні.

**У ЎТОРАК 28 КАСТРЫЧНІКА**, адбудзецца ў Вільні **ЗБОР АХВЯРАЎ** на карысьць прытулку для беларускіх сірот і дзяцей бедных бацькоў.

Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны, які апякуецца памянёным прытулкам, зьвяртаецца да беларускага грамадзянства і да ўсіх людзей добрай волі—з вялікай просьбай: **прыняць чыннае ўчасьце ў зборы, як сваей працай, так і ахвярамі.**

Усіх ахвочых прыняць удзел у зборы Камітэт просіць зьявіцца ў **чацьвер, 16 Кастрычніка, а 5 гадзіне** вечарам у памешканьне Беларускай Гімназіі (Вострабрамская вуліца, дом № 9) для нарыхтаваньня **падзелу працы ў дзень збору.**

*Прысутнасьць усіх сяброў Таварыства помачы пацярп. абавязкова.*

## Царква і дзяржава.

У сучасным сьвеце йдзе вострая барацьба паміж дзьвюма міжнародавымі арганізацыямі: з аднаго боку выступае так-званы „*чырвоны*“ *Інтэрнацыянал* (сацыялістычны і камуністычны), з другога—„*чорны*“, або клерыкальны, які мае свой цэнтр у папскім Рыме. Мы перажываем як-раз такі пэрыад, калі дзьве гэтыя сілы, варожыя адна аднэй, перайшлі да *наступленьня*.

Блізу па ўсей Эўропы „чырвоным“ Інтэрнацыяналам разьбіты адвечны саюзьнік „чорнага“ Інтэрнацыяналу — *манархізм*. На руінах манархізму запанаваў рэспубліканскі лад—дэмакратычны, або камуністычны. Народы, вызваліўшыся ад ярма сваіх „памазаньнікаў божых“—манархаў, ня хочуць знаць іншае ўлады, апрача свае ўласнае. І зусім натуральна, што яны ня хочуць знаць і ўлады папскага Рыму.

Францыя ўжо даўно разарвала саюз („конкордат“) з Рымам. У гісторыі вызваленьня *мысьлі* народаў ад „чорнага“ Інтэрнацыяналу імя мін. Комб'а, які сваей жалезнай воляй зламаў уладу кліру ў французкай рэспубліцы, будзе запісана залатымі літарамі. Вось-жа проці Францыі ў першы чарод і кіруецца „чорнае“ наступленьне: Рым ня можа супакоіцца, што тамака праведзена *поўнае аддзяленьне царквы ад дзяржавы*.

Каталіцкі клір у Францыі вядзе народныя масы ў тых цёмных куткох, дзе яшчэ дух волі ня выгнаў астачы сярэднявечча, на *адкрытую барацьбу з рэспубліканскай уладай*—за тое, што тая ня хоча паддацца пад каманду „чорнага“ Інтэрнацыяналу. Арцыбіскуп Кастэльлян (з Шанбэры) абвясьціў сваю поўную салідарнасьць з кардыналамі, паслаўшымі Эрыо (як у нас у свой час пісалася) пратэст проці скасаваньня ўрадам прадстаўніцтва Эльзаса і Лётарынгіі пры папскім двары ў Рыме. Арцыбіскуп кажа, што за касьцельныя справы „*варта праліць кроў*, а мы маем многа моладзі і сталых людзей, якія шукаюць для сябе гэткае чэсьці“.... Француcкія ксяндзы арганізуюць мітынгі і бунтуюць школьную моладзь проці французкае рэспублікі.

Чародны этап наступленьня „чорнага“ Інтэрнацыяналу — гэта Польская рэспубліка. Але тут няма ніякае патрэбы з кім-колечы бароцца: паскольку ў *Францыі* трэба спадзявацца, *што проціdзяржаўная работа кліру будзе бязумоўна зламана*, пастольку ў Польшчы ўжо *п. Пілсудскі*, колішні „сацыяліст“, *здаў каталіцкаму кліру ўсе свае пазіцыі*. І цяпер эндэк Ст. Грабскі толькі замацовывае ў Рыме ўсё тое, што п. Пілсудскі бяз ніякага змаганьня сам даў Рыму.

Але ў Польшчы ўлада клерыкальнага Інтэрнацыяналу мае вагу ня толькі для каталіцкае дэмакратыі. Нельга забывацца, што тутака істнуе *вялізарны процант інавернаў*: на агульную лічбу насяленьня 27.000.000 — жыды дасягаюць 11,6% (3.132.000 душ), праваслаўныя—9,3% (2,511,000 душ), лютаране і кальвіністы—4,7% (1.269.000 душ), а ўсяго інаверцаў (ня лічучы уніятаў, якія падлягаюць Рыму)—25,6%, або блізу *сямех міліёнаў* (точна: 6.912.000 душ).*) Вось-жа ўзрост клерыкальных уплываў на дзяржаўную ўладу ў Польшчы, няўхільны пасьля фармальнага падпісаньня конкордату з Рымам, ураз-жа балюча адаб'ецца на ўсіх інаверцах наагул, а найбольш на праваслаўных: бо-ж нікому ня тайна, што *праваслаўная ігерархія ўжо абернена ў „агентаў улады“* і, як такая, *будзе нароўні з усей польскай уладай знахадзіцца пад* **магутным уплывам** *Рыму*.

Але ўплыў Рыму гэтым не абмяжуецца. Неяк яшчэ тэй зімой польская сацыялістычная прэса падняла дужа пікантную справу тых *матар'яльных* карысьцяў, якія мае ў Польшчы клір, дзякуючы сваім заваяваньням з часоў „панаваньня“ п. Пілсудскага. А нядаўна дабавілася і яшчэ нешта, ня менш пікантнае.

А іменна: клір у Польшчы апратэставаў канфіскацыю маёнткаў „князёў касьцёла“ — біскупаў і інш. і справу гэтую *фактычна выйграў*, бо яна мае быць вырашана ў „паразуменьні“ з Рымам — пасьля падпісаньня конкордату. Тое-ж сталася і з пратэстам яго проці абкладаньня касьцёльных зямель падаткам ад маемасьці....

Як бачым, каталіцкі клір у Польшчы зьяўляецца як-быццам „гаспадарствам у гаспадарстве“—і гаспадарствам багатым, магутным, не падлягаючым агульнадзяржаўным законам і звольненым ад матар'яльных цяжараў на агульнадзяржаўныя справы. Зусім зразумелая рэч, што гэтае асаблівае „гаспадарства“ жыве коштам працоўных масаў і на іх шкоду.... Конкордат з Рымам мае выпрацаваць толькі яго фармальны статут, замацоўваючы аканчальна здабычы кліру.

У Францыі ў свой час дэмакратыя здалела палажыць канец такому ненармальнаму стану, аддзяліўшы царкву ад гаспадарства і падчыніўшы клір агульна-дзяржаўным законам. Польская дэмакратыя да гэтага йшчэ не дарасла, калі яе галава, Пілсудскі, стануў на калені перад каталіцкім клірам у мамэнт сваей дыктатарскай улады. І замест аддзяленьня царквы ад спраў дзяржаўных Польшча падпісывае конкордат....

*) T. Radliński. Géografja Rzeczypospolitej Polskiej. 1922 г.

## Уваскросшы праект.

*(Аб беларуска-украінска-літоўскім саюзе).*

Гэтымі днямі ПАТ разаслала зьмест цікавае стацьці аб віленскім пытаньні і — ў сувязі з гэтым—аб агульным кірунку літоўскае заграцічнае палітыкі. Стацьця гэтая надрукована ў нямецкай часопісі „Litanische Rundschau“, выдаванай у Коўне, як кажа ПАТ, за нямецкія грошы.

Адзначыўшы, што пытаньня аб Вільні Ліга Народаў на карысьць Літвы разьвязаць ня можа, нямецкая часопісь пераходзе да тых магчымасьцяў, якія цяпер стаяць перад Літвой, паскольку яна будзе далей імкнуцца да здабыцьця Вільні. „Lit. Rund.“ перад усім адзначае, што такі натуральны, на-пагляд, саюз: Нямеччына—Літва—Расея, або Нямеччына—Літва—дзеля агульнапалітычных прычын зьяўляецца не па часе. Таксама адкідае і літоўска-польскі саюз, як „бязсэнсоўны“. Замест усяго гэтага газэта высоўвае трэцюю камбінацыю: **аб'яднаньне Літвы з Беларусяй і Украінай**, якое і магло б даць Літве Вільню.

Стацьця гэтая, а асабліва яе канец, прыводзе на памяць нядаўную мінуўшчыну, калі йшчэ істнавала „Ўсерасейская“ турма народаў, у якой пад замком сядзелі і мы, і нашы сяньняшнія „валадары“, і Літва, і Украіна. Бо-ж яшчэ задоўга да сусьветнае вайны сярод беларускага, украінскага і часьці літоўскага грамадзянства лунала думка аб **„трайным саюзе“** гэтых трох народаў. Ведама, у тыя часы гэта былі йшчэ толькі першыя спробы ўзаемнага зблізкэньня, якое пасьля і зрэалізавалася між беларусамі і ўкраінцамі—пераважна на грунце культурна-нацыянальнае працы. Але ідэя „трайнога саюзу“ у сваіх далейшых імкненьнях мела пад сабой ня толькі ідэйныя пабуджэньні ў пастаці супольнасьці нацыянальных ідэалаў, але і вельмі рэальныя падставы: патрэбу бароцца з тымі-ж самымі ворагамі (Масква—Варшава!) і **эканамічныя** інтарэсы трох краін.

Тыя прычыны,—казалі ідэалёгі „трайнога саюзу“,—якія некалі давялі да стварэньня вялізарнае дзяржавы — ад Балтыцкага да Чорнага мора, аб'яднаўшае ў межах Вялікага Князьства Літоўскага Літву, Беларусь і чуць-што ня ўсю Украіну, не перасталі істнаваць і пасьля развалу гэтае дзяржавы. Бо на першым пляне тут стаіць **геаграфічнае палажэньне** Беларусі, Украіны і Літвы, **супольнасьць водных артэрыяў** (сыстэма рэк і каналаў), а также **ўзаемнае дапаўненьне прыроднымі багацьцямі** кожнае краіны.

Калі пачалася сусьветная вайна, калі сьцены „Усерасейскае“ турмы народаў пачалі трашчэць, а вялізарны абшар на Захадзе быў пакінуты расейскімі арміямі і акупаваны немцамі,—у беларускім, украінскім і літоўскім грамадзянстве збудзіліся надзеі на зьдзейсьненьне іх незалежніцкіх імкненьняў. А побач з гэтым ізноў выплыла ідэя „трайнога саюзу“.

Але да гэтае ідэі тагачасныя „гаспадары палажэньня“ аднясьліся варожа. Нямецкая палітыка баялася стварэньня такое магутнае сілы трох аб'яднаных народаў і, падыходзячы да стварэньня незалежнае Літвы і незалежнае Украіны, яна заняла выразна няпрыхільнае становішча ў адносінах да незалежнасьці Беларусі: пакідаючы Беларусь у руках Расеі, бэрлінскія палітыкі маніліся гэтак абасобіць і Літву, і Украіну, паміж якімі, быццам клін, павінна была ўрэзацца „расейская“ Беларусь.

У 1916 годзе ў Лёзанне (ў Швайцарыі) адбываўся зьезд паняволеных народаў Расеі. На гэты зьезд акупацыйная ўлада пазволіла выехаць з Вільні беларускім і літоўскім дэлегатам. Галоўны закансьпіраваны тагачасны беларускі палітычны цэнтр (Беларускі Народны Камітэт) апрацаваў для сваіх дэлегатаў абшырны даклад у справе „трайнога саюзу“, у якім адзначалася патрэба далучэньня да праектаванага саюзу трох народаў яшчэ і чацьвертага: **Латвію**. Вось-жа з гэтым дакладам сталася гэткая гісторыя: яго на старой расейска-нямецкай граніцы немцы адабралі ў нашых дэлегатаў, пераслалі ў Коўну ў Ober Ost, і стуль выйшла рэзалюцыя: задзяржаць яго.

Калі—неўзабаве пасьля лёзанскага зьезду—пачалася падгатоўка да арганізацыі літоўскае дзяржавы, літоўскія палітыкі, пад націскам нямецкае

# 70-лецьце К. Каўцкага.

16/X аўстрыйскія сацыялісты сьвяткавалі 70-лецьце нарадзін знамянітага тэарэтыка „прававернага марксізму“ Караля Каўцкага.

50 гадоў назад Каўцкі амаль што ня сам адзін залажыў аўстрыйскі сацыялістычны асяродак у Вене.

Цяпер Каўцкі лічыцца галоўным правадыром-тэарэтыкам марксізму ў яго так-званай „навуковай“ форме, — якая пакладзена ў аснову арганізаванай дзеяльнасьці так-званага II Інтэрнацыяналу (сацыялістычнага). Каўцкі стаіць на яго левым флангу, хоць ён і далёкі ад ідэалёгіі III Інтэрнацыяналу (камуніст.).

Каўцкі першы даў даступны шырокай публіцы нарыс тэорыі Маркса. Пасьля ў радзе сваіх прац ён карыстаўся асновамі марксізму (так-званага гістарычнага, ці эканамічнага, матар‘ялізму) дзеля разьвязаньня розных праблемаў у розных галінах веды — гісторыі, рэлігіі, філязофіі, этыкі і інш.

Яго знамянітая „этыка“ зьбівае вядомы прынцып контаўскай этыкі (фармальны абавязак — маральная павіннасьць) і ўводзіць зусім новую падставу маралі— прынцып барацьбы проці істнуючага ладу, як заўсёды адсталага ад ідэалу перадавой думкі.

Як „ортодоксальны“ (прававерны) марксіст, Каўцкі ў свой час вёў заядлую барацьбу проці так-званага „рэвізіянізму“ (больш урадавай тактыкі парляманцкай барацьбы, выцякаўшай з больш эвалюцыйнага тэарэтычнага пагляду на разьвіцьцё сацыяльна-палітычных установаў у грамандзянстве), які разьвіваў вядомы правадыр правага крыла нямецкай сац.-дэмакратыі, Эд. Бэрнштэйн.

Каўцкі — адзін з нямногіх нямецкіх сацыялістычных дзеячоў, даволі добра знаёмы з беларускім адраджэнскім рухам. У 1919 годзе ён быў у зносінах з беларускімі сацыялістычнымі дзеячамі, быўшымі часова ў Бэрліне, да якіх аднасіўся з шчырым спогадам.

---

ўлады, пачалі ўсё больш адыходзіць ад беларусаў, з якімі на пачатку акупацыі падтрымлівалі сталы кантакт. Літвіны (па загаду з Бэрліну?) адмовіліся разглядаць сваю будучую дзяржаву, як літоўска-беларускую, хаця ў склад яе павінна была ўвайсьці беларуская Віленшчына і Горадзеншчына (да лініі акопаў). І гэта была галоўная прычына папсаваньня беларуска-літоўскіх адносінаў на доўгі час.

Як бачым, ідэя „трайнога саюзу“ была адкінута тымі, хто ў той час меў фактычную магчымасьць дапамагчы зьдзейсьніць яе, ці перашкодзіць ей. І немцы ей перашкодзілі, — перашкодзілі, ня гледзячы на пратэсты паадзінокіх нямецкіх палітычных дзеячоў, радзіўшых шчыра пайсьці па дарозе „трайнога саюзу“ (Рорбах).

Далейшы ход выпадкаў вядомы. Рэвалюцыйная Расея даволі хутка зразумела значэньне нацыянальнага пытаньня і правяла рэарганізацыю сваей дзяржаўнай будоўлі, паклаўшы ў аснову яе прынцып самастойных нацыянальных тэрыторыяў, аб‘яднаных у фэдэрацыю з Масквой. У склад Саюза Сацыялістычных Радавых Рэспублік увайшлі, як асобныя рэспублікі, Усходняя Беларусь і пераважаючая частка Украіны. І там, на Усходзе, распачалася для беларускага і ўкраінскага народаў **будаваньне Бацькаўшчыны**, хоць і няпоўнае, і аднабокае. А ў сувязі з гэтым аканчальна ўтрацілі грунт дамаганьні Літвы, каб да яе былі далучаны землі Заходняе Беларусі, забраныя Польшчай, паводле Рыжскае ўмовы з Расеяй.

Абмылку Літвы ў адносінах да Заходняй Беларусі цяпер паўтарае Польшча. І пад той час, як Усходняя Беларусь, маючы за сабою магутную сілу СССР, усім цяжарам усходняе фэдэрацыі прэцца да Балтыцкага мора — праз Вільню, польская палітыка робіць усё магчымае, каб Заходняя Беларусь імкнулася не на Захад, а на Ўсход—насустрэчу ўсходнім сваім братом....

У прыведзенай напачатку стацьці „Lip. Rund.“, гаворачы аб магчымых саюзах Літвы з суседзямі, аўтар яе нічога ня кажа аб Расеі. Затое ён радзіць Літве шукаць саюзу з Беларусяй і Ўкраінай, проці чаго ў часе нямецкае акупацыі мо‘ сам-жа бароўся... **Але-ж Беларусь і Ўкраіна цяпер ужо—сябры ССРР**! Вось-жа, калі прыпомнім, што эканамічная падстава ідэі „трайнога саюзу“ ад гэтага ані не зьмянілася, толькі самы гэны саюз пашырыўся, — дык можна атрымаць уражэньне, быццам, пад відам узнаўленьня „трайнога саюзу“, **немцы „далікатна“ радзяць Літве ўвайсьці ў склад ССРР**, дзе ўжо апынуліся два галоўныя сябры „трайнога саюзу“....

Але ПАТ кажа, што гэта—ня так.—Польскае агенцтва тлумачыць, што немцы маюць на думцы пры помачы Літвы **разьбіць Польшчу**, — значыць, тут гутарка йдзе толькі аб Заходняй Беларусі і „польскай“ Украіне. Калі гэта так, дык аўтар стацьці „L. R.“ памыляецца, думаючы, што зьдзейсьніць гэта для Літвы—„найлягчэй“: няўдалая палітыка Літвы ў адносінах да беларусаў наагул і да Заходняй Беларусі асабліва зрабіла падобную думку сярод беларусаў ужо зусім **непапулярнай**. І для Заходняй Беларусі сяньня **Усходняя Беларусь мае непараўнана большую прыцягальную сілу, чым Літва.**

І трэба думаць, што Літва не дастане Вільні ня толькі затым, што ей ня дасьць гэтага места Ліга Народаў: дзеля гэтага перашкодай зьяўляецца зусім **новы ўклад сіл і адносінаў на Усходзе, дзеля якіх Літва ня зможа дастаць Вільні нават і тады, калі-б яе ўтраціла Польшча.**

Не дарма-ж Комінтэрн глядзіць на **Вільню, як на сталіцу Заходняе Беларусі!** **І. М.**

---

**СЯЛЯНЕ!** Памятайце, што „Сялянская Праўда“—гэта **вашая газэта**, дык вы самі павінны яе і ўтрымаць. Дзеля гэтага **акуратна шліце падпісныя грошы** і намаўляйце да гэтага другіх!

Хто ў цяжкую пару задоўжыўся, хай, сабраўшы з поля, **адашлець свой доўг!**

Падпішчыкам, якія **да І лістапада** заплоцяць зразу грошы да канца году, будзе **бясплатна** разасланы зборнік — вялікая кніжка ў 156 стр. —

**„Заходняя Беларусь“.**

---

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Пачатак новае сэсіі Сойму.

22-X Сойм распачынае новую сэсію першым чытаньнем бюджэту на 1925 год.

### „Зямельная рэформа“ ў Польшчы.

Прэм‘ер Грабскі канфэраваў з міністрам „reform rolnych“ п. Копчыньскім у справе праекту закону аб правядзеньні зямельнай рэформы, які ўрад мае́цца падаць у Сойм у найбліжэйшым часе...

Чакалі 6 гадоў, можа пачакаюць яшчэ і „найбліжэйшага часу“...

### У адміністрацыйнай камісіі Сойму.

У камісіі, якая разглядае цяпер праекты законаў аб самаўрадзе, правіцовая большасьць патрапіла „паменшыць“ нават гэтыя тварэньні керніка-лютаспаўскага законадаўства, падвысіўшы ўзростны цэнз (век) дзеля падачы голасу з 21 году да 24!

### 35 грашоў на страву вязьня ў дзень!

Як піша „Robotn.“, той самы міністар польскай справядлівасьці, які абсталяваў — у мэтах „ашчаднасьці“ — праект шыбеніцы для выкананьня караў сьмерці, палажыў рэзалюцыю, відаць, у тых-ж мэтах дзяржаўнай эканоміі, каб на пракорм вязьняў у дзяржаўных вастрогах, як і ў арыштах камунальных і гмінных, выдавалася па 35 грош. на кожнага ў суткі.

„Ашчаднасьць“ пана міністра як тут, так і ў абсталяваньні шыбеніцы, — зусім выразная і бязсумліўная. — Розьніца толькі ў тым, што шыбеніца „працуе“ хутчэй...

### „Чаго паехаў“.

Гэтак пытаецца „Robotnik“ аб падарожы ваеннага міністра Сікорскага ў Парыж.

Запраўды-ж,—трудна зразумець, чаго! Афіцыяльна падарожа тлумачыцца патрэбай „абгаварыць яшчэ раз варункі францускай пазыкі Польшчы ваеннымі матар‘яламі“.

Гэта ўсё тая самая, так гучна рэклямаваная пазыка ў 400 м. франкаў, якую быццам „даў“ яшчэ п. Пуанкарэ...

А вось парыжскі карэспандэнт „Kur. Warsz. падае, што размовы ген. Сікорскага „датыкаліся ўсіх актуальных справаў, важных для абедзьвюх дзяржаў“.

Але- з Парыжу толькі што вярнуўся міністар загран. спраў п. Скшыньскі, якога службовы абавязак—„абгаварыць усе актуальныя пытаньні і важныя для абодвух краёў справы“.

Дык ядавітае запытаньне „Robotnika“ запраўды мае падставу!

А для нас—збоку, цікаўна яшчэ і гэная „ядавітасьць“ газэты да міністра, якога яна заўсёды падтрымлівала. Ці не за п. Пілсудскага пасварыліся прыяцелі?!

### Нарэшце раскрылі карты!

Мы памятаем, з якім абурэньнем адкінуў у сваім вядомым інтэрвью мін. Гюбнэр думку аб магчымасьці ўвядзеньня выняткавага стану на „Крэсах“.

Пасьля — праз месяц, бо зусім нядаўна, той-жа п. міністар Гюбнэр „паправіў няточнасьці“, паданыя ў яго славах, бо ён казаў аб немагчымасьці ўвядзеньня ваеннага стану, але не выняткавага наагул...

А вось цяпер газэты сярод скромнай „Kroniki Parlamentarnej“ падалі вестку, што прэм. Грабскі зьвярнуўся да Маршалка Сойму Ратая з просьбай аб якнайхутчэйшым правядзеньні ў Сойме „праекту ўставу аб выняткавым стане“, падкрэсьліваючы важнасьць яго для бясьпечнасьці краю.

Дык вось можна мець надзею, што ў хуткім часе будзе юрыдычна аформлена тое, што ўжо даўно фактычна шалее на „Крэсах“.

### Замена паліцыі войскам на ўсходняй граніцы.

Корпус пагранічнай старожы заменіць паліцыю на радавай граніцы ад 1 лістапада.

### Узмацненьне службы лучнасьці.

Асобная камісія па апрацаваньню пляну забясьпечаньня ўсходніх граніц ад бандыцкіх нападаў пастанавіла, каб уздоўж граніцы ў пасе 100 кілям. шырыні ўсюды былі тэлефоны паміж вайсковымі ці паліцэйскімі пляцоўкамі.

### Ахова цягнікоў паліцэйскімі атрадамі.

Ад 1 лістап. ўсе цягнікі, якія ходзяць у 250-кілямэтравым пасе каля граніцы з СССР, будуць ахоўвацца добра ўзброенымі атрадамі паліцыі.

### Напады на „Крэсах“.

„Robotnik“ падае: на краму ў вёсцы Гарочыцы, Горэўск. пав., напалі 5 бандытаў. Аграбіўшы ўласьніка на 1.000 злотых, узяўшы ў яго аружжа, бандыты зьвязалі яго і ўцяклі ў няведамым напрамку.

„Паведамленая аб нападзе Гораўская паліцыя загадала пагоню“ („у няведамым напрамку„?.. *Рэд.*).

---

У калёніі Пяжэры, Луцкага пав., трое бандытаў напалі на дом лясьнічага Забавы. Лясьнічы, які пачаў бараніцца, моцна пабіты. Бандыты ўцяклі.

З Львова паказуюць, што на маёнтак Юзэфіно напала банда з 20 чалавек, якія, абрабаваўшы дом упраўляючага Астроўскага, пачалі пасьля гэтага судзіць яго за крыўды, зробленыя сялянам. У часе „суду“ Астроўскага забілі.

Паліцыя быццам злавіла ўсіх бандытаў, якія аказаліся (?) мясцовымі сялянамі, а іх галава — бальшавіцкім агітатарам з ССРР...

„Robotnik“ раскрыў нам просты рэцэпт, як крэсавая паліцыя „падае Варшаве тое, чаго тая патрабуе“...

## Заграніцай.

### Пераломны мамэнт у літоўскай палітычнай думцы.

Літоўская прэса перапоўнена артыкуламі, якія, ў сувязі з магчымасьцяй разрыву паміж Нямеччынай і ССРР,—ставяць літоўскай палітыцы задачу: вырашыць, з кім ісьці ў далейшым разьвіцьці падзеяў, — з першай ці з апошнім. Большасьць органаў вырашае гэтае вялікай важнасьці пытаньне на карысьць сувязі з ССРР.

### Справаздача камісіі сэнат. дэ-Монці.

Камісія сэнат. дэ-Монці, быццам, ужо закончыла праект акту прызнаньня ССРР францускім урадам. Справаздача зьмяшчае наступныя пункты: 1) бязумоўнае прызнаньне ССРР, 2) запросіны да ўзнаўленьня нармальных адносінаў, 3) урэгуляваньне справы даўгоў і страт і справы аховы інтарэсаў францускіх грамадзян, 4) справа ўчасьця Францыі ў адбудове ССРР.

### Нямецка-расейскія таргоўыя перагаворы.

У пачатку лістапада распачнуцца перагаворы ў справе таргавага трактату паміж Нямеччынай і ССРР.

### Выбарная кампанія ў Англіі.

На кангрэсе Партыі Працы, ураз-жа пасьля роспуску парляманту, Мак-Доналяд сказаў сваю першую выбарную прамову, стаўляючы мэтай выбарнае барацьбы перамогу работнікаў над абедзьвюма варожымі партыямі — кансэрватарамі і лібэраламі.

Але на тым-жа кангрэсе Партыя Працы сама абязсіліла сваю пазіцыю, дадаўшы сабе трэцяга ворага—ўжо зьлева: у асобе камуністычнай партыі, выключаючы камуністаў з агульна-работніцкага фронту. Гэтая пастанова прынята 1.604.000 галасамі, проці 1.540.000,—значыць, зусім нязначнай большасьцяй, што ясна паказуе на тую небясьпеку, якую адчулі ў гэтай пастанове больш як паўтара мільёна арганізаваных работнікаў.

### Канфлікт Англіі з Турцыяй у Лізе Народаў.

Старшыня Рады Лігі п. Гюманс, разглядзеўшы скаргу Турцыі на англійскі ўрад у справе Мосулю, загадаў сэкратарыяту Лігі склікаць надзвычайную сэсію Рады дзеля разгляду англа-турэцкага канфлікту.

### Да ўрадавага крызісу ў Нямеччыне.

Пасьля адмовы дэмакратаў на праект, запрапанаваны Марксам, пашырэньня парляманцкай базы ўраду, канцлер на сваю руку запрапанаваў нацыяналістам 4 месцы ў габінэце.

Канцлер Маркс думае, што гэткім чынам ён адхіліць патрэбу роспуску парляманту і новых выбараў. Перагаворы йдуць.

### Нямеччына гатова да вайны.

Англійскі генарал Морган, былы сябра кантрольнай камісіі ў Бэрліне, надрукаваў артыкул аб тым, якую ваенную сілу мае Нямеччына, ня гледзячы на разаружэньне і „паліцэйскі нагляд“ Антанты. П. Морган піша, што даволі толькі спыніць дзеяльнасьць кантрольнай камісіі, як праз год Нямеччына пойдзе йзноў ваяваць з Антантай у ўсеаружжы сваей магутнай ваеннай тэхнікі. Немцы маюць 500.000 адборнага войска. Іх ваенныя заводы і фабрыкі за час спадку маркі так пашыраны, што могуць вырабляць амуніцыі больш, як да вайны.

## Усьмірэньне паустаньня у Бэсарабіі.

У Радавых газэтах зьмешчаны загад ваеннага міністра Румыніі, у якім дано гэткае апісаньне апэрацыяў румынскай арміі пры падаўленьні паўстаньня ў Бэсарабіі.

„Высаджаныя ў Кіліі марскія атрады разам з пяхотай, артылерыяй і палявой жандармэрыяй здалелі змусіць насяленьне Кіліі, Вілкова, Тысмэі, Нарушэні, Талешты, Нікалаяўкі, Шыбрыяні, Балашу і Пэрыбольны пакарыцца румынскай аружнай сіле. Ураганны агонь артылерыі і марскіх гарматаў навучыў насяленьне належнае Румыніі пашаны... У радзе местаў захоплена войскам вельмі многа паўстанцаў... Многа было забітых... Захоплена шмат кулямётаў, выбуховых матар'ялаў, ваенае амуніцыі, жалезна-дарожнага матар'ялу і бранявікоў (?) — Дзякуючы гэтаму, удалося папярэдзіць выбух яшчэ вялікшага паўстаньня, якое магло давясьці да неспадзяваных рэзультатаў... Шмат памагла дунайская флётылія, якая адрэзала паўстанцам сувязь з Чорным морам. Вялікія ўслугі аказаў справе румынскі ваенны флёт, падвозячы войску, у якога скончылася ваенная амуніцыя, свае запасы.

Загад ваеннага міністра сцьвярджае вялікую вагу гэтага паўстаньня, як „рэпэтыцыю будучай вайны“: ў ёй Румынія здабыла цэнны дасьлед, які выкарыстала пакуль што дзеля арганізацыі адбываючыхся цяпер вялікіх манёўраў. Гэты дасьлед даказаў, што Бэсарабія асталася і застанецца Румынскай.

---

Пакідаючы збоку ўсе фразы і перавялічэньні гэтага афіцыяльнага камунікату, трэба сцьвярдзіць адно: вялізарныя разьмеры і раён пашырэньня **паўстаньня бэсарабскага насяленьня**.

Загад афіцыяльна сцьвярджае тое, што румынская прэса і дыпляматыя так-жа катэгарычна адкідалі, даказываючы, што ніякага паўстаньня ня было, а былі толькі „дывэрсыйныя бандыцкія напады“ на ўсходніх „крэсах“ Румыніі.

---

„Калі хто захоча сумлявацца у маіх вывадах, дык магу даць усялякія лічбавыя довады“,—кажа п. Морган.

Рэвэляцыі англійскага генарала выклікалі перапалох ува ўсіх дзяржавах Антанты і ў яе васалаў.

### Цэпэлін у Амэрыцы.

Нямецкі паветраны карабель Цэпэлін прыбыў у Амэрыку, праляцеўшы праз акіян у працягу 81 з нечым гадзін.

У Нью-Іорку адбылося ўрачыстае спатканьне госьця і вялікія фэсты ў чэсьць немцаў.

### Амэрыка і Ліга Народаў.

Міністар Юз (рэспубліканец) у прадвыбарнай прамове заявіў, што Амэрыка не дапусьціць, каб унутраныя справы яе разглядаліся іншымі дзяржавамі, хаця-б і ў Лізе Народаў.

### Страх перад радыкальным кандыдатам у Амэрыцы.

Вядомы амэрыканскі міністар Юз (Hughes) у сваей агітацыйнай прамове заклікаў абедзьве існаваўшыя дагэтуль і канкураваўшыя між сабой партыі— „дэмакратаў“ і „рэспубліканцаў“ стварыць выбарны блёк проці новай партыі і яе радыкальнага кандыдата Ля-Фолетта, за якога пастанавілі галасаваць, апроч працоўнай інтэлігенцыі, і амаль ня ўсе работнікі Штатаў.

### Сацыялістычны ўрад у Швэцыі.

Вядомы швэдзкі сацыяліст Брантінг, якому кароль даручыў стварэньне ўраду, заявіў, што яго габінэт будзе **чыста сацыялістычны** — з адных толькі сацыял-дэмакратаў.

Справа разбраеньня, на якой спаткнуўся папярэдні ўрад, будзе вырашана кампрамісам паміж сацыялістамі і лібэраламі.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Войскі вядомага правадыра рэвалюцыянэраў—незалежнікаў Сун-Ят-Сэна разьбілі ўсе атрады, створаныя багатымі прамыслоўцамі, перадтым падпаліўшымі места. Пажар зьніштожыў каля 1.000 дамоў, зрабіўшы стратаў на 5 мільёнаў даляраў. Шмат забітых і раненых.

Як падаюць з Лёндану, за Шанхай ізноў узьнялася барацьба.

Паводле вестак з Шанхаю, жаўнеры — дэзэртыры з фронту грабяць ваколіцы. Атрад з 1.000 чалавек уварваўся ў Шанхай і пачаў рабаваць францускія кварталы.

---

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

---

# Пісьмо з беластоцкага вастрогу.

На рукі аднаго з нашых дэпутатаў прыйшло пісьмо з Беластоцкага вастрогу, дзе, паводле газэтных вестак, адбываецца галадоўка палітычных вязьняў. Пісьмо гэтае пісана ў пачатку верасьня, але прыведзеныя ў ім факты дужа характарны для адносінаў адміністрацыі да вязьняў у гэтым вастрозе.

6-га жніўня тут была таксама **галадоўка палітычных**. Спачатку загаладалі мужчыны. Пачаліся крыкі, бо **галадаўшых кавалі і садзілі ў адзіночкі ды ў карцар**. Палітычныя жанчыны прасілі начальніка вастрогу сказаць, у чым справа, але ім не сказалі. Тады і яны далучыліся да галадоўкі. 8-га жніўня прыехаў пракурор, і галадоўку спынілі.

Прычынай галадоўкі былі **немагчымыя адносіны адміністрацыі**. Паміма міністэрскіх цыркуляраў, адміністрацыя ўводзіць свае правілы, каб і без таго страшэннае жыцьцё вязьняў зрабіць зусім немагчымым. Няма што казаць, што палажэньне крымінальных — яшчэ горшае! Гляне арыштант у вакно—ў карцар яго на 7 дзён і яда што 3 дні! Калі-ж крычыць, дык у кайданы закуюць, а то бруднае шмацьцё ў горла сунуць. Былі ўжо **спробы самагубства** крымінальных кабет: **вешаліся ці галавою аб сьцену білі**. Нядаўна вешалася **Юзя Вуйцік**, але яе адратавалі.

**Калі-ж прыедзе пракурор і яму паскардзяцца, дык пасьля за гэта садзяць у цёмную!**

Пасьля галадоўкі ў жніўні начальнік у часе прагулкі забараніў палітычным жанчынам ляжаць на горцы, а каб ляжалі на бруку.

Сядзіць тут засуджаная ў беластоцкім працэсе беларуская дзеўчка, Вера Маслоўская. Яна хворая на тубэркулёз. Вось, ня гледзячы на загад доктара, ей начальнік забараняе ляжаць у дзень на ложку. А з крымінальнымі жанчынамі дык яшчэ горш. Між імі ёсяць такія, што на прагулцы ня маюць сілы хадзіць і выходзяць на двор толькі падышаць, — дык-жа іх гвалтам прымушаюць, каб хадзілі, або за кару зусім пазбаўляюць прагулкі.

Прыяжджаў сюды нейкі **дэлегат з Чырвонага Крыжа**, але-ж **без тлумача**, дык нашыя скаргі яму тлумачыў наш-жа інспэктар! Дый да тых, што яго найбалей ждалі, зусім не заходзіў. Зайшоў быў да палітычных жанчын, але тыя таксама не маглі з ім разгаварыцца, і пераказываў іх скаргі той-жа інспэктар! Што ён там казаў, ніхто ня ведае. Але пасьля бытнасьці дэлегата палітычных жанчын перавялі ў другую камеру—сырую і каля зьліўных труб, дзе што дня вывозяць бочкі з клаэтаў... У Маслоўскай тут ад сырасьці на грунце тубэркулёзу адняло левую руку, і яна зусім злягла!

---

# ХРОНІКА.

**У Беларускім Таварыстве помачы пацярпеўшым ад вайны.** У нядзелю, 12 кастрычніка, а 5 гадзіне вечарам, сабраліся ў Беларускай Гімназіі сябры Т-ва на гадавы сход. Сабралося адразу досыць сяброў, бо аж 45, і сход у той-жа дзень адбыўся. Справаздачу Камітэту Т-ва за мінулы год дзейнасьці Т-ва сход аднагалосна зацьвердзіў. Выслухаўшы даклад аб патрэбе зьмены стутуту, сход аднагалосна з дакладчыкам згадзіўся і прачытаны статут Беларускага Дабрадзейнага Таварыства прызнаў добрым, па зацьверджаньні якога павінен быць скліканы сход для закладзін Дабрадзейнага Т-ва і ліквідацыйны сход сяброў цяперашняга Т-ва помачы пацярпеўшым ад вайны — для перадачы спраў і маемасьці новаму Таварыству.

У Камітэт Т-ва помачы пац. ад вайны выбранымі аказаліся: Будзька Адварды (за старшыню), Кс. Станкевіч Адам (пам. старш.), Кэпель Мітрафан (пам. старш.), Астроўскі Радаслаў (за скарбніка), Манкевіч Уладзімер (за пісара), Астроўская Антаніна, Дубіцкая Алёна, Тарашкевічыха Вера, Пяткевіч Міхал; на замясьціцеляў: Кс. Рэшаць Язэп, Сіняўскі Мікола, Рак-Міхайлоўская Надзея.

У Паверачную (Рэвізыйную) Камісію выбраны: Міхалевіч Аляксандр, Гапановіч Язэп, Рак-Міхайлоўскі Сымон—і на замясьціцяляў: Савіцкі Іван і Заморын Міхал.

**Прэзыдыум Школьнай Рады** 10 кастрычніка сёл. г. адбыў нараду аб школьных справах. Дальшым цягам прысылаюць беларускія вучыцялі заявы, каб працаваць у сваей школе, і такіх заяваў ужо ёсьць 500, а так-жа ўсьцяж прыбываюць копіі прыгавараў сялян аб адчыненьні беларускіх школ. Улады і далей астаюцца глухімі на жаданьне беларускага народу.

**Грабскі памог.** Пасольскай дэлегацыі пан Грабскі, старшыня міністраў, між іншым абяцаў беларускіх вучыцялёў не назначаць у школы польскія, а ўжо назначаных зьвярнуць у школы беларускія. Тымчасам некалькі дзён таму назад Віленскі Школьны Інспэктар беларускага вучыцеля Пяткевіча, дагэтуль працуючага ў беларускай пачаткавай школе ў Вільні, назначыў у школу... расейскую. Гэтае зьявішча „Krynica“ слушна называе зьдзекам над беларусамі. Знача Грабскі памог, як кашаль у хваробе.

**Увазе студэнтаў беларусаў!** Урад Беларускага Студэнцкага Саюзу даводзіць да ведама, што сэкрэтарыят Ураду адчынены бывае ў аўторкі, чацьвяргі і суботы ад 4—6 г.

Урад Саюзу запрашае ўсіх сваіх сяброў і нова-прыбылых калегаў зарэгістравацца ў вышэйпамянёныя гадзіны і дні у памешканьні Саюзу (Віленская 12—6).

**Можа і пасла Барана абмяняюць.** У гэтым месяцы ў Польшч прыяжджае 208 палякоў, а ўзамен за іх многія паедуць у Савецкую Беларусь і Расею. Магчыма, што і беларускага пасла Барана, які гніе ў польскай турме, так-жа абмяняюць на якога паляка.

**„Першы вайсковы асаднік Польскае Рэспублікі.** У Вільню прыехаў Маршалак Пілсудскі з сям'ёй. Пішуць, што ён маніцца прачытаць тут рад лекцыяў. Аб чым?—Ды, відаць, усё аб тым-жа, аб тым толькі ён адзін можа і хоча думаць і казаць: аб „ваенным геніі“ Язэпа Пілсудскага...

Паводле іншых вестак, паданых варшаўскімі газэтамі, „першы Маршалак Польшчы“ прыехаў у Віленшчыну, каб „аглядзець фальварачак“. „Świątniki“, надзелены яму, як „osadnicza działka wojskowa“.

„Гэты фальварачак п. Пілсудскі празначае на пасаг сваей малодшай дочцы“.

Цікава яшчэ раз адзначыць, чым скончылася так гучна рэклямаваная праз адозвы п. Язэпа Пілсудскага да народу аграрная рэформа!..

Трэба—ў памяць аб гэтай „гістарычнай ролі“ п. Пілсудскага на так „улюбленай ім Літве“ прысвоіць яму тытул — „першага асадніка на ўсходніх крэсах Польскай Рэспублікі.

**Палёгкі для... асаднікаў.** Каб больш насадзіць на нашы землі польскіх асаднікаў і каб ахвотней яны сюды ехалі, польскі ўрад робіць для іх розныя палёгкі.

Так, напрыклад, за праезды асаднікаў і за перавоз сваей маемасьці чыгункай бяруць або дужа мала, або і нічога.

**„Крэсавы“ дэлегат.** Пасьля доўгага адуму, ўрад зрокся думкі стварыць становішча самастойнага кіраўніка „крэсавай“ палітыкай у асобе адумыснага віцэ-міністра да „крэсавых“ спраў пры прэзыдыуме рады міністраў. Замест гэтага пастаноўлена назначыць дэлегата ўраду пры міністэрстве ўнутраных спраў спэцыяльна да спраў „Крэсаў“.

Хаця дэлегат гэны мае знасіцца і з другімі міністэрствамі, аднак, улада і кампэтэнцыі яго, як урадоўца міністэрства ўнутр. спраў, будуць абмяжованы: ён падлягацімець п. Гюбнэру. Дык не спадзяемся ад гэтага назначэньня нейкіх паважных вынікаў...

На становішча „крэсавага“ дэлегата ўраду назначаны былы дэлегат ураду на Віленшчыну, п. Роман, які так паскудна забрудзіў беларускае жыцьцё ў Вільні. Ці і далей ён будзе мяшаць беларускую палітыку з.... шулерняй і рознымі цёмнымі фігурамі?

Не далёка-ж тады ён заедзе...

**Напады ня сьціхаюць.** Газэты што-дня падаюць весткі аб усё новых і новых нападах на беларускіх і украінскіх „Крэсах“. Як відаць, генарал-ваяводы мала памагаюць.

„Słowo“ кожын дзень мае новыя факты нападаў. „Gaz. Warsz.“ за адзін дзень — у нумары з 15 кастрычніка—падала чатыры гэткія факты.

**Новае аружжа для паліцыі.** Звольненымі з-над радавай граніцы паліцыянтамі ўлада маніцца паміж іншым апчасьлівіць „дзеля ўзмацненьня аховы грамадзян“, і нашую Віленшчыну.

Апроч таго, паліцыя мае быць уваружана новымі кулямётамі сыстэмы Тушэ. Абучаныя гэткай страляніне паліцэйскія атрады ўжо высылаюцца ў паветы.

**Пад каманду Варшавы.** Польскі прадстаўнік дзеля перагавораў з папскім Рымам аб конкордаце, Ст. Грабскі, дагаварыўся ўжо, паміж іншым, аб падзеле Польшчы на дыэцэзіі. Пры гэтым умоўлена, што **Віленская і Менская дыэцэзіі** будуць далучаны **да Варшаўскае рымска-каталіцкае мітраполіі.**

Цікава толькі, як гэта Варшава будзе кіраваць Менскай дыэцэзіяй, ад якое толькі малы кусок адыйшоў да Польшчы, а рэшта з Менскам знаходзіцца ў межах Радавае Беларусі?

**Отпуск мітрапаліта.** Варшаўскі Мітрапаліт Дзяніс атрымаў (ад п. Стшалковскага?) 6-тыднёвы отпуск на лячэньне ў адным з нямецкіх Курортаў. З другога боку трэба даць час супакоіцца і праваслаўнай апініі, якая, зразумела, вельмі „зьдзіўлена“ „юрыеўскай“ роляй Мітрапаліта Дзяніса ў справе высылкі яп. Уладзімера...

Хто будзе спаўняць абавязкі Мітрапаліта, — ці, лепш, выпаўняць загады ўрадоўцаў міністэрства рэлігіяў, яшчэ ня ведама. — Наш віленскі ўладыка Хвядос — найстарэйшы, але затое яп. Аляксандар, хаця й наймалодшы, ды найболей „верны“ і каханы мітрап. Дзянісам.

**„Зімна прынялі“.** „Dzien. Wil. (14.X) зьмясьціў з Дунілавіч вестку аб прабываньні цяпер там віленскага архірэя Хвядоса. З гэнай весткі даве-

дываемся, што гэтага „пастыра“ беларусы прынялі зімна.

„Кгуніса“ да гэтага дадае, што заўсёды так быў і будзіе лёс казённых пастыраў.

Аб гэтым павінны падумаць як праваслаўная, так і каталіцкая духоўная сэмінарыі ў Вільні.

## Справа на часе.

Мы атрымалі ад аднаго з беларускіх дзеячоў пісьмо ў Рэдакцыю, зьмест якога, з увагі на значэньне закранутае справы, тутака друкуем:

Новая ўстава аб языку ўрадаваньня дае нам паважную магчымасьць карыстаньня з роднай беларускай мовы ў судох. Ведама, усе, каму дарагі наш нацыянальны адраджэнскі рух, маем сьвятую павіннасьць правесьці гэныя магчымасьці ў жыцьцё. Але вось тут і напатыкаем найвялікшую труднасьць: адсутнасьць судовай беларускай тэрміналёгіі. Шануючы і любячы сваю мову, мы ня можам выстаўляць яе на сьмех, а гэта будзе, бязумоўна, так, калі кожны захоча, паводле свайго бачаньня, тлумачыць тэрміны. Справа палючая—з вырашэньнем адцягаць няможна. Заметкі газэтныя яшчэ пару месяцаў назад аб быццам пачатай працы ў гэтым напрамку—відаць толькі благія пажаданьні.

Я хацеў-бы на страніцах прэсы падаць гэткі праект: усе нашы юрыдычныя і філялягічныя сілы, калі можна, згуртаваўшыся па некалькі чалавек, павінны нягайна прыступіць да тлумачэньня найболей патрэбных тэрмінаў з „ustaw postępowania cywilnego i karnego“. У самым блізкім часе склікаць зьезд, на якім пры ўчасьці навуковых сіл і судовае магістратуры (яна, безумоўна, таксама мусіць быць зацікаўлена ў гэтай працы), зацьвярдзіць пэўную тэрміналёгію.

Рэдакцыя горача падтрымлівае гэту думку.

## Карэспандэнцыі.

### Пасольскі мітынг.

(*М. Мёры, Дзісьненск. пав.*).

6 кастрычніка г. г. у Мёрах, Дзісьненскага пав., адбыўся справаздаўчы мітынг. Прамаўляў п. Мятла. Дзеля добрай пагоды і спраўкі з работай, рынак быў перапоўнены. З вялікай зацікаўленасьцю выслухалі грамадзяне першую ў гэтым мейсцы прамову беларускага пасла. **Б.**

### Стрыгуць, як авечку.

(*С. Леаноль, Дзісьненскага пав.*).

Дзякуючы добрай пагодзе, мы даўно ўжо справіліся з палявымі работамі. Даўней, пры гэткіх варунках, па цяжкіх летніх працах, нічога, здаецца, не заставалася рабіць, як сядзець у хаце, памаленечку малаціць хлябок ды падгатаўляцца сустракаць зімовую сьцюжу. Цяпер ня тое. У кожнага галава занятая тым, як цабыць злоты, каб заплаціць падатак. Яны сыплюцца на нас, чуць ня кожны дзень. „Nakazy“ гэтыя пішуцца, напэўна, усімі, хто не ляніцца. Не пасьпееш разабрацца з наказамі „Izby Skarbowej“, як прэць солтыс новыя ад старосты, сэйміка павятовага, гміны. Трэба плаціць, невядома чаму, у два разы павялічаны падатак маёнткові, грунтовы, дарожны, страхоўку, сэймікові, ад быдла, ад „przedmiotów zbytku“, шпітальны, школьны, ад сабак, ад комінаў лёкаляў і г. д. без канца. Пакуль што звольнены ад падаткаваньня каты, але, баюць людзі, што хутка і за іх будзема плаціць. У галаве закруціцца пры пералічаньні іх, а тут яшчэ і цікавы спосаб сьцягіваньня. Ніхто наперад ня ведае, калі і што плаціць. Як на злосьць, чыноўнікі нашы начынаючы з войта, даручаюць паперу-наказ дні за тры-чатыры, а то і меней. Хватаеш, што першае пападзе пад руку, прэш на рынак, а там спэкулянт плаціць такую цану, якую лічыць для сябе выгаднай, бо знае, што я мушу прадаць. Калі-ж, часам, спозьнішся на які дзянёк унясьці, то глядзі і працаўнікі добрыя злупяць, а то чыноўніка прышлюць і апішуць маемасьць, каб пасьля з малатка прадаць. Дзеля гэтага і стараешся прадаць за якую хоч цану і нават просіш, каб толькі купілі. Вось і дзяруць з нас усе: і чыны, і спэкулянты, і чорт, і хорт і невядома хто. І цягнуць гэта ня толькі з тых, хто мае хоць якуюсь там дзесяціну зямлі, ці так якога-небудзь хударлявіннага каняку з каравёнкай, але і з тых, якія жывуць „кутам“ у другіх і з жывёлы маюць хіба з пару-другую блох. Прыкладам могуць служыць нашы суседзі з в. Рашотня, гр. Ламанос і А. Вялічка. Пан войт прыслаў і гэтым бедным людзям заплаціць якійсь там „szpitalny“ падатак. Калі гр. Вялічка адказала, што яна нічога ня маець, то ён сказаў, каб зарабіла на падатак. А колькі-ж плаціць п. войт у сваім маёнтку за дзень працы? І колькі дзён трэба працаваць у яго, каб заплаціць падатак? А цяпер, справіўшыся з палявой працай, хто дасьць і зарабіць?

Эх, паночкі! Калі доіце кароўку, то ці не пара-б было яе і пакарміць. А то... можаць перастаць і малачко даваць. **Пётра Канцавы.**

### Аб новых старажох.

(*З Гарадзеншчыны*).

Доўга мы спалі ў сваім кутку Гарадзеншчыны, аж раптам нас разбудзіў .. сторож над Нёмнам! Не падумайце, што які там сторож фабрычны, ці з чыгункі; не—сторож усіх старажоў нашай Гарадзеншчыны—гэны сторож ёсьць прачнуўшаяся, як яна сама паведамляе, ад 10-ці месячнага сну тыднёвая газэта — „Straż nad Niemnem“.

З усяго відаць, што яна толькі прачнулася, пацерла трохі вочы і думае: што тут пісаць? — Наўперад назавем сваю газэту часопісяй дэмакратычнай. — гэтым назовам мы заспакоім нізы, а вярхі... э, да вярхі нас нават пахваляць...

І пашла, так сказаць, — рваць. Божа, чаго тут толькі не даведаешся: і што мука станьнела, і запалкі, і мануфактура, і піва — ўсё найлепшага гатунку і ўсё станьнела! І што гатовіцца да выданьня праваднік па Горадні дзеля чужаземных турыстаў, астаецца толькі завядоміць аб гэным загранічкаў! І пра тэлефоны, пра банкі, пра фальшывыя білеты, пра авіацыю, пра, пра .. але, ах, усіх навасьцяў не пералічыць, — звычайна галерэя!.. Страх, як цікава!!!

У сваіх галоўных стацьцях і перадавіцы яна, апраўдываючы свой назоў стоража, піша: „Мы жалезнаю рукою пастараемся завясьці тут лад і абараняць яго ад суседзяў — ворагаў“, бо вельмі тут, на „Крэсах“, ужо такія пашлі вялізарныя беспарадкі і, каб лягчэй сьцяміць гэныя непарадкі, адзін з гэных старажоў, нейкі Юрак Наднеманскі, зрабіў спэцыяльную падарожу з Горадні аш да Вялікай Бераставіцы. Ах, што гэта за падарожа?! Колькі тут крытыкі і палітыкі!!!?

Да Саколкі п. Н. ехаў чыгункаю; яе **пахваліў.**

Ад Саколкі да Крынак ехаў шасою, як ён кажа „rowerem“. Хаця яна нічым ня горшая за другія шосы, але гдзе там!—Усе пяруны кліча на яе з неба п. Н.

Чаму гэта так вы думаеце; аж у канцы мы бачым — дзеля таго, што ею валадае інж. Мацеевскі — расеец!!! Далей, прыехаўшы ў Крынкі, ён, п. Н., усе громы валіць на галовы конскага дохтара Зорына і сэкратара магістрату — Савіцкага. На першага — за тое, што ён ня ў ласцы жыве ў Крынскага Ураду. Прызваў яго раз Урад да адказу, аж ён і кажа: „Я не ад вас служу, а ад пав. Сойміку!“. На другога за тое, што ён ня скончыў Сэмінарыі мястачковых сэкратароў, мае „мінімальнае выкшталцэньне“, хоць ужо служыць тры гады і спраўляе абавязкі добра. Але ўсе гэныя громы стануць зразумелымі, калі мы даведаемся, што яны абодвы — расейцы!!! Вось што!!! Усіх іх п. Н. прызывае пакінуць пасады.

Пра першага мы ня ведаем, можа ён і запраўды „Рязанскій“ дохтар; але другога добра знаем, што ён урадзіўся ў Крынках, дык значыць тут для п. Н. усе, акрамя палякоў, — расейцы, а як і тут служаць расейцы, дык тут — Расея? Расея ў Польшчы... **Дык вось адчаго тут вялізарныя беспарадкі...** Дык вось для чаго езьдзіў п. Н.!

У Берастравіцы ён незнайшоў расейцаў, але прамаўчаць — нялоўка. „А ведаеце“, — падсказаў яму нехта — напішэце пра паліцыю, яна ў нас можа 50 разоў была пад судом, на каманданта ёсьць амаль што ня 100 пратаколаў, у Сойме пра іх гукалі.

— „Ага“, — падумаў п. Н., — „дык пісчуць трохі можна“, — што ўсім вядома. Ну і пісвуў трохі, але прамаўчаў, што ён — дык запраўды расеец, — тульскі абшарнік, дзеля таго, каб не напрыкрыць паном, бо трэба будзе іх яшчэ і пахваліць (каб не падумалі, што бальшавік).

Выгарала ў нас у Амінаўцах летам палавіна вёскі. Дык усе, прыехаўшыя з Расеі, былі надта таму радыя, бо, калі яны хадзілі ў тую вёску папрасіць чаго, дык адтуль проста іх праганялі. Але як толькі прайшоў пажар, зразу зазванілі аб гэным і ў касьцёлі і ў царкве — „Ратуйце людзей“! Хаця ў гэтых людзей згарэлі толькі хаты, а большая часьць другіх будынкаў пазаставалася, — на полі хлеб застаўся, коні і каровы засталіся, але з усіх канцоў сталі крычаць — „Памагайце!“. А таго ня бачаць, што большая часьць вёсак у гміне, як Лепесы, Лесьневічы, Карпаўцы, Жабрэ і др., прыехаўшы з Расеі, да гэтага часу нічога ня маюць, — ані хатаў, ані інш. будынкаў, ані хлеба, бо папрадавалі на падатак, ані коняў, ані кароў; але гэтага ніхто ня бачыць, — бачаць толькі Амінаўцы. Нават Касакоўскі ім памог — даў па 2 мэтры будульцу, і ў гэтым п. Н. бачыць паразуменьне вёскі з дваром... Значыць, Касакоўскаму ўжо прыгатоўлены рай, бо за яго людзі просяць Бога і духавенства благаслаўляе, але калі так, так ён пойдзе ў пекла напэўно, бо за гэты адзел просіць Бога больш людзей, бо як раз пайшоў адзін нам знаёмы, да яго прасіць $^{1}/_{2}$ м. дзерева на дзьверы да зямлянкі, дык ён сказаў:

— „Пашоў вон, лайдаку, я ўдовам не даю, а табе дам!“...

Нашто тут даваць? Хто тут убачыць? О! як дам Амінаўцам, дык, і духавенства будзе благаслаўляць, і знайдзецца нейкі п. Наднеманскі, што і ў газэце прапіша!

Ну і даў... (хоць на выплаты). Разьведываў п. Н. і пра падаткі, дык яму сказалі: „Рады і большыя плаціць“. Цікава, хто гэта сказаў? Мусіць — войт з сэкратаром, бо яны езьдзяць па вёсках і за падатак забіраюць — плугі, бораны, хамуты, а нават і збожжа. А як сяляне запраўды глядзяць на гэныя падаткі, — напішам другім разам. **„Рогі“.**

## Беларусы у Чэхаславакіі.

### Беларуская Рада ў Празе.

30 верасьня г. г. адбыўся гадавы справаздаўчы сход таварыства „Беларуская Рада ў Празе“. Была заслухана справаздача за мінулы год, перавыбраны прэзыдыум і рэвізыйная камісія і абгаворана арганізацыйныя справы і плян працы на будучыну. У прэзыдыум засталіся абабранымі гр. Л. Заяц (старшыня), М. Вершынін (віцэ-старшыня), А. Дыліс (сэкратар), Ул. Жылка (скарбнік) і Захарка.

Беларуская Рада ў Празе з'яўляецца апалітычнай культурна-грамадзкай арганізацыяй і мае галоўным заданьнем згуртаваньне і дапамогу беларусам у C R S а таксама культурнае зблізжаньне народаў чэскага і беларускага.



## АБВЕСТКА

Беларуская Рада ў Празе даводзіць да ведама грамадзян-беларусаў, якія прабываюць у Чэхаславакіі, што:

1. Беларуская Рада ў Празе, згодна свайму статуту, з'яўляецца культурна-грамадзкай установай і вядзе ў гэтым напрамку сваю чыннасьць.
2. Рада бярэ на сябе абарону інтарэсаў беларусаў, пражываючых у межах Чэхаславацкай Рэспублікі.
3. Беларусы, жадаючыя ў той ці іншай форме карыстацца дапамогай і заступствам Беларускай Рады, павінны зарэгістравацца ў Канцалярыі Рады.
4. Асобы, жадаючыя прыняць чынны ўдзел у культурна-грамадзкай працы Беларускай Рады ў Празе, могуць, згодна статуту, падаць заявы аб залічэньні іх сябрамі Рады, за рэкамендацыяй 3-х чынных сябраў Рады.
5. Заявы аб рэгістрацыі і аб залічэньні сябрам Рады прыймаюцца штодзеньне ў Канцалярыі Рады ад 9 да 13 гадзіны; часова, — па адрэсу:

**Прага II, Венцігова 4 ў п. Вершыніна.**

Сэкрэтар **А. Дыліс.**

14 Кастрычніка 1924 г.
м. Прага.



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.